Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 27 — Вільня, Субота, 23-га кастрычніка 1926 г. — Год I.

## З пытаньняў дня.

Надовячы „Słowo“ падало буйнымі літэрамі і ў сэнсацыйнай форме—пад загалоўкам: **„Крывавае злачынства гурткоў“** — заметку аб забойстве паліцыянта ў в. Сьцеўькі, Тумілавіцкае гміны, Дзісьненскага павету. У заметцы гэнай гаворыцца, што „16-га г. м. ўвечары старшыня гуртка „Беларускае Сялянска - Работніцкае Грамады“, Андрэй Юдзёнак, хітрасьцяй завёў у сядзібу гуртка вывядоўцу палітычнае паліцыі, Нікадэма Івашкевіча, дзе на апошняга напалі ўнекалькіх сябры гуртка. Вывядоўцу зьвязалі шнурамі і разброілі, ды нялюдзка білі, а калі ён самлеў, дык старшыня гуртка Андрэй Юдзёнак перарэзаў яму горла. Пасьля забойства Івашкевіча злачынца ўраз-жа ўцёк. Ходзяць чуткі, быццам у тую-ж ноч ён перайшоў цераз радавую граніцу“.

Гэтак піша „Słowo“. І мы ня можам прайсьці моўчкі міма гэтага крывавага самасуду—не затым, што адказнасьць за яго орган міністра Мэйштовіча сіліцца пераклась ці на „Грамаду“, а дзеля нашых **прынцыповых адносінаў** да фактаў падобнага роду.

Вельмі лёгка даказаць, што „Грамада“ ня мае з гэтай справай нічога супольнага: яшчэ **8-га кастрычніка Андрэй Юдзёнак быў выключаны з арганізацыі** за ламаньне арганізацыйнае дысцыпліны. Дый у крывавым самасудзе трэба шукаць ня столькі палітычнае падкладкі, колькі **асабістае:** нядаўна той-жа Юдзёнак прыслаў у Цэнтральны Сэкрэтарыят „Грамады“ абшырны даклад аб тым, што ён з няведамае прычыны быў арыштаваны паліцыяй і страшэнна скатаваны... Праверыўшы гэты факт, пракуратуры ня прыдзецца шукаць вінавайцаў крывавага дзела сярод грамадзістаў, а заглянуць у тую „катоўню“, аб якой пісаў Юдзёнак.

Аднак, мы ведаем, што прыклад—гэта вельмі заразьлівая рэч. І вось лічым сваім абавязкам рашуча перасьцерагчы арганізаванае беларускае сялянства перад насьледаваньнем апісанага паступку былага грамадзіста. Ужо сьвядомасьць тэй шкоды, якую падобны самасуд, учынены сябрам арганізацыі (хаця толькі былым!), можа прынесьці ўсей арганізацыі—асабліва ў сучасны мамэнт напружанае барацьбы з „Грамадой“ ўсіх польскіх буржуазных кірункаў у краю,—павінна ўстрымліваць ад уваходу на шлях асабістае помсты за дазнаную крыўду. — Дый не такім шляхам ідзе, не на гэткі шлях кліча працоўныя масы „Грамада“.

Грамада змагаецца за тое, каб наагул для крыўд і зьдзекаў над працоўнымі месца ня было. „Грамада“ імкнецца да зьмены сучаснага ладу на такі, каб улада была ў руках працоўных, каб агенты дзяржаўнае ўлады не зьбыткаваліся над народам, як гэта часта мы бачым сёньня, а служылі бы яму і ахоўвалі ягоныя інтарэсы. Ведама, да такое зьмены мы ня дойдзем змаганьнем толькі з паадзінокімі паліцыянтамі ці шпікамі, і сьмерць паліцыянта Івашкевіча ані ня прычыніцца да зьдзейсьненьня ідэалу „Грамады“.

Больш таго: калі-б навет пачаўся шырэйшы паўстанскі рух сярод нашага сялянства, як моʻ аб тым лятуцяць гарачыя галовы, дык і гэта — асабліва пры сучасным палітычным палажэньні — не вядзе да мэты, дый можа скончыцца толькі праліцьцем сялянскае крыві — без карысьці. Нідзе і ніколі сялянскі рух не дасягаў сваіх мэтаў, калі ня меў апоры ў мястох. Да таго-ж падобны рух у аднэй толькі Заходняй Беларусі — без такога-ж руху па ўсей Польшчы—дасьць буржуазнай уладзе поўную магчымасьць утапіць наш край у моры крыві — рукамі польскіх сялян і работнікаў, якіх буржуазія трымае ў цемры ды ўсьцяж цкуе проці нас, паказуючы ім, як прыманку, „вялізарныя вольныя абшары зямлі“ ў Заходняй Беларусі—пад асадніцтва.... Гісторыя-ж барацьбы польскага народу за вызваленьне паказала, што найвялікшыя ахвяры крывёй і маемасьцяй, складаныя на алтар ідэі незалежнасьці ў часе паўстаньняў, не далі вынікаў, пакуль магутны вораг—царская Расея—не абяссілела ад вялікае сусьветнае вайны. Толькі ў сувязі з сусьветнай вайной легіоны Пілсудскага здалелі адыграць рашаючую ролю ў вырашэньні пытаньня аб уваскрашэньні Польшчы....

Наш шлях—гэта арганізацыя нашае ўнутранае моцы—культурнае, палітычнае, клясавае. Толькі маса—гэты запраўдны волат з міліёнамі галоў—можа выкаваць для нас новыя формы жыцьця. Але гэтая маса мусіць жыць аднэй супольнай ідэяй, аднэй супольнай думкай, мусіць стацца добра дысцыплінаванай арміяй, паслухмянай агульным, пастановам працоўных, сьвята выпаўняючай агульную, усенародную волю. У гэтай арміі кожная адзінка павінна ведаць сваё месца і ня шукаць для сябе асабістае толькі помсты, а шукаць выхаду з несьцярпімага для ўсіх працоўных палажэньня, злучаючы ў вадно сілы паадзінокіх барацьбітаў і не расьцярушываючы іх на асабістыя разрахункі.

Адкрыта й легальна працуе „Грамада“, ідучы па гэтым шляху. Адкрытымі і легальнымі спосабамі хочам мы даваць адпор і паадзінокім праявам самаволі ці то з боку адміністрацыйных уладаў, ці з боку пануючых клясаў. І ня наша віна будзе, калі сучасная ўлада ў Польшчы зробіць для беларускіх сялян такую форму змаганьня немагчымай.

## Уцякаюць з П.П.С.

### З А Я В А.

Мы, ніжэйпадпісаныя былыя сябры ППС, увайшлі ў гэную партыю ў 1925 г. з увагі на яе праграму, выдзяляўшуюся спасярод другіх. Цяпер мы пераканаліся, што яны нас ашукалі: яны галасавалі ў Сойме за асаднікаў, проці аддачы сялянам зямлі бяз выкупу, проці беларускіх школ і г. д. А таму-та мы выходзім з гэтай партыі і заклікаем усіх запісацца ў Беларускую Сял.-Раб- Грамаду, у якую самі ўступаем, ды якая зьяўляецца шчырай барацьбіткай за нашы правы.

Няхай жыве Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада!—Матвейчык Язэп, Шымук Павал, Дуброўскі Сьцяпан, Жамойда Пётра, Дуброўскі Хвёдар, Шыман Сымон.

### З А Я В А.

Я, ніжэйпадпісаны Макар Барычэўскі, — сябра ППС, (Польскай Партыі Сацыялістычнай),—пазнаўшы, што ППС не змагаецца за інтарэсы сялян і работнікаў, а падтрымлівае буржуазію—абшарнікаў і капіталістаў, што ясна было відаць на пэпээсаўскім зьезьдзе ў Варшаве 8-га лістапада 1925 г., на якім я быў прысутным, калі пэпээсаўскі пасол Квапінскі, ня гледзячы на тое, што сяляне Польшчы, Беларусі і Украіны дамагаюцца зямлі бяз выкупу, — ясна высказаў, што зямля павінна быць выкуплена ад абшарнікаў, — далей, пазнаўшы, што пэпээсы выступаюць проці супольнага фронту сялян і работнікаў, ідуць проці амністыі для палітычных вязьняў, ідуць проці нашых нацыянальных беларускіх, а таксама сацыяльных інтарэсаў сялян і работнікаў усяго сьвету, — усё гэта пазнаўшы, я адракаюся ад ППС і далучаюся да праўдзівае барацьбіткі за сялян і работнікаў — свае Бел. Сял.-Раб. Грамады і заклікаю ўсіх чэсных пэпээсаўцаў зрабіць таксама, як я.

**Макар Барычэўскі**. (В. Броўніца, Лунінецкага пав.).

## У Польшчы.

### Забойства куратара школьнага вокругу ў Львове.

19/X у Львове каля дзьвераў сваей казённай кватэры забіты на мейсцы 2 стрэламі з рэвальвэраў куратар Львоўскага Школьнага Вокругу Собіньскі.

Польскія газэты пішуць, быццам забіты куратар 2 студэнтамі-украінцамі, дый за тое, што вельмі „старанна“ праводзіў „грабскія“ школьныя законы ў жыцьцё, наклікаючы на сябе страшэнную ненавісьць украінскага грамадзянства.

Забіты куратар быццам у апошні час атрымліваў шмат лістоў з прысудам сьмерці. Праз увесь час паліцыя зорка сьцерагла куратара, але нядаўна толькі гэты „нагляд паліцыі“ быў зьняты — быццам па трэбаваньню самога куратара.

### Орган пілсудчыкаў аб крэсавай паліцыі.

„Głos Prawdy“ ў адным з апошніх нумароў піша:

„Сярод матарʻялаў, якія знаходзяцца ў нашых руках, ёсьць канкрэтныя факты аб нягоднай дзеяльнасьці вышэйшых агентаў паліцыі места Варшавы, варшаўскага вокругу, Лодзі, Станіславова, Сьнятыня і г. д., **ня кажучы ўжо аб Крэсах, якія, дзякуючы спэцыяльным адносінам да іх галоўнае каманды дзяржаўнае паліцыі, разглядаюцца ею, як месца ссылкі за розныя правіннасьці дысцыплінарнага характару, дзеля чаго стаюцца арэнай для бяскарных надужыцьцяў з боку розных паліцэйскіх дастойнікаў**“...

Падаем гэта не затым, каб тутака было нешта для нашых чытачоў новае, а затым, што—калі **мы** гэта пісалі, пан камісар ўраду на м. Вільню, Вімбор, нашу газэту **канфіскаваў!** Няхай-жа рэдакцыя „Głosu Prawdy“ далуча пададзены намі факт да свайго партфэлю аб дзеяльнасьці нашае адміністрацыі!..

### Зьніштажэньне нашых лясоў.

Газэты паведамляюць, што між польскім міністэрствам дзяржаўных маемасьцяў і англійскай кампаніяй лясных прамыслоўцаў дайшло да новага паразуменьня ў справе зьніштажэньня багацьця нашага краю—Белавежскай Пушчы, лясоў слонімшчыны, Горадзеншчыны і інш. Быццам англійскія капіталісты зрабілі шмат ўступак польскаму ўраду, каб толькі захапіць крапчэй у свае рукі беларускія лясы, ды пасьпець вывезьці нашае багацьце, пакуль яшчэ маюць час. Ведама-ж, і польскі ўрад рады быў пайсьці на спатканьне сваім новым дабрадзеям-апякуном.

### Разлом у партыі польскіх „работнікаў-нацыяналістаў“.

Ведама, што работнікі ўсяго сьвету злучаны між сабой (—сьведама, ці нясьведама) клясавай салідарнасьцю працоўных, дык—ясна-ж, што гэткае штучнае злучэньне пралетарскай ідэалёгіі з буржуазным нацыяналізмам магло вытварыцца толькі ў вельмі нездаровых варунках нацыянальнай ненавісьці, раздзьмуханай канкуруючай між сабой палітычна буржуазіяй польскай і нямецкай у былай нямецкай Польшчы. Так запраўды-ж і зьляпілася з дзьвюх розных ідэалёгіяў польская „Народова Партыя Роботніча“—ў Пазнані і Верхняй Сілезіі. Але з часам супярэчнасьці гэтага ненатуральнага злучэньня пачалі давацца ў знакі, і партыя пачала развалівацца. Адны элемэнты, менш клясава сьведамыя, але больш „народовыя“, цягнуліся да эндэцыі ды хадэцыі; элемэнты больш сьведама—пралетарскія адкалываліся ўлева. Пераварот Пілсудскага дадаў гэтаму натуральнаму працэсу крыху іншы напрамак, наагул значна прысьпяшыўся гэты развал партыі. Галоўныя павадыры партыі Вашкевіч і Цішак сталі гарачымі пілсудчыкамі ды пачалі адцягіваць да сябе „лявіцу“ партыі. У Лодзі ім удалося адарваць ад партыі значную групу. Але на толькі што адбытым зьезьдзе ў Торуні (мямецкі Торн) большасьць партыі прыняла рэзалюцыі, скіраваныя проці Вашкевіча ды Цішака... Сцьвярджаем, гэткім чынам, што і „Н. П. Р.“ так сама, як і „адналітая“ ППС. разьбілася ўжо—пасьля маёвага перавароту — на „правіцу“ і „лявіцу“.

### Цікаўныя спрэчкі ў „адналітым лоне“ П. П. С.

17 і 18 кастрычніка йшлі гарачыя спрэчкі на паседжаньнях „Галоўнай Рады ППС.“, выкліканыя (нарэшце—даведаліся!) уваходам „Таварыша Морачэвскага“ ў склад ураду Пілсудскага—пад ручкі з двума абшарнікамі-манархістамі: Мэйштовічам і Незабытоўскім.

Часьць павадыроў ППС, як Барліцкі, Жулаўскі, Квапіньскі, Лібэрман і інш., (ядро Цэнтральнага Камітэту Партыі), лічылі недапусьцімым гэтае супрацоўніцтва. Больш левыя ад гэтага цэнтру—„лявіца“, з сымпатычным п. Зарэмбай на чале, вельмі востра рэагуюць на ўваход „Таварыша Морачэвскага“—ў склад абшарніцка-мілітарнага ўраду. Направа ад цэнтру — „ўгадовая правіца“, з Дашыньскім на чале і разам з усім варшаўскім камітэтам,—багаслаўляе ўваход Морачэвскага... У выніку вельмі вострых спрэчак „адналітая“ Рада пастанавіла схаваць розьніцы паглядаў, ды на ўваход „таварыша“ ў абшарніцкі ўрад—не рэагаваць ніяк, нічога навет не адказываючы міністру Морачэвскаму на яго прапазыцыю—злажыць мандат пасольскі, а можа і—выйсьці з партыі, што, ведама-ж, было-б запраўдным скандалам.

Добрыя-ж „сацыялісты“, добрыя „абаронцы“ работнікаў гэтыя пэпээсы, калі — за міністэрскія крэслы больш трымаюцца, чым за мандаты ад работнікаў бараніць іх справу.

### Аж „два сьледзтвы“ ў справе нападу на пасла Зьдзеховскага.

У справе бандыцкага нападу на пасла Зьдзеховскага, як пішуць газэты, ідуць адначасна аж два сьледзтвы: адно вядзе вайсковая жандармэрыя, а другое—цывільная пракуратура. Але дагэтуль — з „двух сьледзтваў“ неяк няма яшчэ аніводнага выніку. Пабітаму паслу жандармэрыя прадставіла аж 159 фатаграфіяў ...афіцэраў жандармэрыі, з якіх ён павінен

быў пазнаць бандытаў. Але пасол адказаў, што ён ня можа знайсьці сярод іх з пэўнасьцяй напасьнікаў.

### Львоўскі „Каапэратыў дзяржаўных урадоўцаў"—пад судом.

Пракуратура пасадзіла на лаўку падсудных увесь склад львоўскага каапэратыву дзяржаўных урадоўцаў — лікам 21 тысяча сяброў. Справа ў тым, што гэты „каапэратыў" збанкрутаваў. — Дык у выніку—сябры вінавацяць управу, якая сваей „гаспадаркай" зрабіла банкруцтва — страту ўсяго капіталу, дый яшчэ—з паўмільённым недахватам у касе; а ўправа, з свайго боку, вінаваціць усіх сяброў, што не плацілі сяброўскіх складак...—Характэрны абразок з жыцьця і грамадзкага самапачуцьця польскіх урадоўцаў на „Крэсах": ведама-ж усім, як гэтыя ўпрывілеяваныя панкі перакананы, што ўсё, што яны ні наробяць, пакрые варшаўскі ўрад—„дзеля вагі і павагі" польскай улады на „Крэсах".

## Заграніцай.

### Новы мэморыял літоўскага ўраду ў справе Віленшчыны.

Літоўскі ўрад толькі-што разаслаў усім сябром Лігі Народаў новы мэморыял у справе Віленшчыны—ў сувязі з нядаўна ўзноўленай умовай з СССР. У мэморыяле паміж іншым гаворыцца:

„Літоўскі ўрад думае, што, калі Расея ня прымала ўчасьця ў падпісаньні Вэрсальскага Трактату, дык і ўсе пастановы апошняга датычна зямель, якія перад вайной належалі да Расеі, павінны былі — з праўнага пункту гледжаньня — астацца яе-ж уласнасьцю. Дык толькі ў далейшым, на падставе паасобных умоваў яе ўраду з суседнімі дзяржавамі, маглі праўна паўстаць гэтыя новыя рэспублікі—на былай расейскай тэрыторыі. Паміма гэтых умоваў, ніводная дзяржава, ці група дзяржаваў, ня маюць права вырашаць дзяржаўны лёс гэтых тэрыторыяў".

Далей мэморыял кажа, што ўмова расейска-літоўская з 12/7—1920 г., паводле якой Расея аддала Літве Віленшчыну, аканчальна вырашыла праўны лёс апошняй. Рыжскі Трактат ня мог ні ў чым праўна зьмяніць гэтага дзяржаўнага лёсу Віленшчыны. Рада Паслоў (Антанты) ня мела ніякага права „зацьвярджаць" граніцу між Літвой і Польшчай, проці чаго пратэставала Літва. Фактычная ваенная акупацыя Віленшчыны Польшчай, зразумела-ж, не стварыла ніякага права Польшчы на захоплены Край, аддазены Літве Расеяй.

Узноўлены расейска-літоўскі трактат „толькі пацьвярдзіў усе гэтыя бясспрэчныя рэчы, якіх ня могуць зьбіць усе прэтэнсіі Польшчы"...

Так піша літоўскі мэморыял.

### Капітуляцыя апазыцыі ў СССР.

Галоўныя павадыры апазыцы проці большасьці ўрадавай партыі ў СССР, як: Троцкі, Зіноўеў, Пятакоў, Сакольнікаў, Еўдакімаў,—выдалі адозву, у якой заяўляюць, што, адмаўляючыся ад апазыцыі, цалком падпарадкуюцца ўсім пастановам зьезду Ком-Партыі і яе Цэнтр. Камітэту. У канцы адозвы гэтыя павадыры заклікаюць усіх сваіх прыхільнікаў спыніць апор проці цэнтру.

Гэткім чынам, уся барацьба апазыцыі з цэнтрам, якая магла ня толькі паграажаць адзінству партыі, але выклікаць і далейшыя важнейшыя падзеі, на якія так спадзявалася расейская эміграцыя, зьліквідавана дарэшты.

### Сэнсацыйная заява францускіх радыкалаў.

Партыя францускіх радыкал-сацыялістаў, якая мае вялізарную большасьць у парляманьце, апублікавала за подпісам 50 паслоў адозву, у якой зьмешчаны вельмі сэнсацыйныя дамаганьні:

„Ад імя важнейшых правінцыяльных аддзелаў Радыкальнай Партыі, а такжа ад імя найбуйнейшай групы Лігі Правоў Чалавека,— заяўляем:

1. Мы былі-б вельмі шчасьлівыя, калі-б дзяржавы скасавалі ўзаемна ўсе ваенныя даўгі.

2. Мы—прыхільнікі безадкладнага зьняцьця акупацыі левага берагу Рэйну (ў Нямеччыне) — пад варункам, што немцы дапамогуць Францыі ў яе фінансавай санацыі ды ня будуць глядзець на ўсё гэта, як на знак слабасьці Францыі, але як на доказ шляхотнага жаданьня вечнага міру.

3. Мы перакананы, што француска-нямецкае паразуменьне—падстава трывалага агульнага міру ў Эўропе. Дзеля таго—дамагаемся агульнага перагляду Вэрсальскага Трактату, а асабліва—скасаваньня „Гданскага калідору"—так, каб за Польшчай асталіся толькі землі, дзе жыве толькі польскае насяленьне.

4. Мы перакананы, што трывалы мір у Эўропе магчымы толькі тады, калі ўрэшце будзе дасягнута паразуменьне з Радавай Расеяй".

З гэтага цікаўнага дакумэнту ясна, што агульнае працьвярожаньне Францыі шпарка пасоўваецца наперад.

### Да мабілізацыі ў Турцыі.

Англійскія газэты пацьвярджаюць вестку аб мабілізацыі ў Турэччыне аж 5 новых карпусоў—на выпадак вайны з Італіяй.

### Завастрэньне забастоўкі англійскіх вуглякопаў.

Англійскія вуглякопы на мяйсцох пачалі пераходзіць да больш актыўных спосабаў барацьбы. У аднэй з капальняў група бастуючых вуглякопаў з 600 чалавек, сярод якіх было шмат жанок і дзяцей, абураная на ламаньне забастоўкі стаўшымі на працу гарнякамі, кінулася на іх ды каменьнямі закідала адміністрацыю капальні і пакліканую ёй на ратунак паліцыю. З гэтае прычыны між паліцыяй і бастуючымі ўзгарэлася запраўдная бітва, у выніку якой ранены 20 паліцыянтаў і 25 вуглякопаў.

### Канфэрэнцыя прэм'ераў Брытанскай Імпэрыі.

Як ведама, Англія — толькі кіруючая цэнтральная частка вялізарнай Брытанскай Імпэрыі, у склад якой—пад адным супольным каралём — уваходзіць цэлы рад вялізарных і зусім незалежных дзяржаваў — так званых „домініяў". Дзеля ўзгадненьня супольнай палітыкі пэрыядычна адбываюцца зьезды прэм'ераў гэтай Імпэрыі. Гэткі зьезд і распачаў сваю працу 19 кастрычніка ў Лёндане. Канфэрэнцыя мае працягнуцца некалькі тыдняў.

### Найбуйнейшыя абшарнікі ў сьвеце.

Апазыцыйныя левыя нямецкія газэты абураюцца на тое, што Прускі Сойм, ахвяраваўшы „панаваўшаму дому Гогэнцоллернаў" аж 250 тысячаў гэктараў зямлі, зрабіў іх — найвялікшымі абшарнікамі ў сьвеце,—падмацаваўшы аднечасна гэтым рэакцыйную армію і партыі нямецкіх аграрыяў у краі—і матэрыяльна і палітычна.

### Барацьба з клерыкалізмам у Мэксыцы.

Прэзыдэнт Мэксыкі падаў у Сойм праект закону, які абмяжоўвае лічбу каталіцкіх ксяндзоў у Мэксыцы, якіх у гэным краі, здаецца,— больш, як рэшты насяленьня.

У часе дыскусіі ў Сойме дайшло да рэвальвэрнай стралянiны, пры чым забіты 3 паслы.

### Новы саюзьнік народных арміяў.

Як ведама, народныя кантонскія арміі ўсё бліжэй падыходзяць да Шанхаю, ахопліваючы яго паўколам з паўдня і захаду. Пасьля раду значных паражэньняў абаронцаў Шанхаю—генаралаў Ву-Пэй-Фу і Сун-Чуан-Фанга (наймiты Англіі), былы іх саюзьнік губэрнатар значнай правінцыі Чэкіянг, якая ляжыць на шляху народных арміяў да Шанхаю, раптам, страціўшы надзею на перамогу Англіі, перайшоў на бок кантонскага ўраду, каб разам з яго войскам выгнаць з Шанхаю... англійскіх акупантаў.

Шанхай аб'яўлены на асадным палажэньні. Навакол выкапаны акопы ды пастаўлена цяжкая артылерыя—з браняносцаў...

**Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!**

## Нарада віленскіх „манархістаў".

„Dz. Wil." падае цікаўныя весткі аб адбытай у нядзелю нарадзе віленскіх манархістаў, якія згуртаваліся пад гучным назовам — „Кансэрватыўная Арганізацыя Дзяржаўнай Працы". Так-жа свайго роду — „Партыя Працы", ужо другая ў Польшчы, а калі лічыць яшчэ і пэпээсаў, дык—і трэцяя.

Арганізацыя пастанавіла шырока вербаваць сяброў. Нараду адчыніў старшыня праф. Завадзкі, які, заклікаючы да пашырэньня партыі, прызнаў аднак-жа, што яшчэ ў Польшчы пакуль-што трэба адлажыць увядзеньне манархіі, бо... нямашака кандыдата на трон!..

Пасьля абеду былі прачытаны 2 даклады: князя Сапегі — аб агульна-палітычным палажэньні і д-ра Хондзыньскага—аб „Грамадзе".

Кн. Сапега, былы міністар загран. спраў, сцьвярдзіў зусім адкрыта, што новая партыя—„антыканстытуцыйная, антыпарляманцкая і — імпэрыялістычная". Заканадаўчыя ўстановы павінны быць перароблены на „закона-дарадчыя"—пры боку выканаўчай улады „фактычнага самадзержца" марш. Пілсудскага... Уся справа „для нас" — у тым, каб зрабіць арганізацыю, якая-б здолела „знайсьці шляхі ўплыву на гэтую рашучую ў Польшчы сілу" (Пілсудскага)!.. Закрануўшы справу нападу на пасла Зьдзеховскага, гэты прадстаўнік „польскай кансэрватыўна-дзяржаўнай ідэі" заявіў, што гэта—„справа ганаровая", дык аб ёй найляпей маўчаць. У канцы аратар сказаў, што Пілсудскі вышукаў сабе—у асобе абшарнікаў Мэйштовіча і Незабытовскага — найлепшых „ангелаў-храніцеляў", за аховай якіх можа быць зусім спакойны ды бясьпечны. Таксама, дадамо, як і абшарнікі—за аховай свайго „ангела-храніцеля"—Пілсудскага.

Д-р Хондзыньскі з м. Паставы страшыў паноў-абшарнікаў небясьпекай з боку Грамады, якая дайшла да таго, што яе гурткі дамагаюцца — ажна (ух, страшна сказаць!) „зьмяншэньня паліцыі, войска, а навет—зьмяншэньня падаткаў з сялянскай бедннаты і—наадварот, спагону падатковай залегласьці з абшарнікаў"!.. „Калі ўсё гэтае робіцца адкрыта — пад самым вокам уладаў, дык можна выабразіць, што робіцца тайна"!—крычаў, відаць, шчыра-дурнаваты доктар.

Урэшце, на прапазіцыю рэдактара „Слова", была выслана тэлеграма да мін. Мэйштовіча і Незабытовскага—з падзякай і просьбай,—каб „чувалі" над інтарэсамі сваіх „крэсавых родакаў", уплычаючы адпаведна на марш. Пілсудскага.

## Да паходу проці „Грамады".

Пасьля зьвягі на „Грамаду" ў абшарніцкім „Słowie" і „дэмакратычным„ „Kur. Wil.", — як быццам на падставе змовы і падзелу роляў,—гаўкнуў і обстаўскі „Dzień. Wil.". Аднак, яму адказваць ужо ня будзем: замест адказу падамо толькі перадрук гэтых вось радкоў з варшаўскага органу пілсудчыкаў—„Głos Prawdy":

„Ужо некалькі дзён мы адзначаем узьвялічанае зацікаўленьне прэсы беларускай справай. Цяпер трэ адзначыць эндэцкі голас — аднае з наймарнейшых віленскіх газэцін. Знаходзім тамака вельмі прымітыўны спосаб разьвязаньня справы: караць. Караць за агітацыю, караць за належаньне да партыі. А калі мужык пачуе, што за прыналежнасьць да „Грамады" караюць,—дык уступіць. Але рэпрэсіі — кажа газэта—павінны наступіць хутка, каб далі вынікі.

„У некаторых людзей ёсьць нейкая задзіўляючая тупасьць. Вось адбываецца вялікі працэс адраджэньня народу. Працэс гэты, сустракаючы розныя перашкоды, можа навет у некаторых мамэнтах выраджацца. Але ці-ж зачыненьне ў вастрозе некалькіх, колькісот або і некалькіх тысячаў людзей можа спыніць разьвіцьцё яго? Караць трэба. Пэўне-ж. Але на найвастрэйшыя кары заслугуе гэтага роду дурнота. Нажаль, у нас карае яе толькі—гісторыя".

Гэтыя словы органу варшаўскіх пілсудчыкаў у роўнай меры можна аднясьці і да віленскіх пілсудчыкаў — манархістычных і „дэмакратычных". Дый з іх ясна відаць, што ўвесь паход проці „Грамады", абаперты на бязглуздай ілжы, абмазганы не ў Варшаве, а тут—у Вільні!

Прыпамінаюцца словы аднаго выдатнага польскага публіцыста, які пару гадоў назад прыяжджаў у Вільню з Кракава і—пасьля канфэрэнцыі з прадстаўнікамі польскага грамадзянства—сказаў аднаму з беларускіх дзеячоў:

— „Маю вельмі сумнае ўражаньне: што Вільня беларускага пытаньня разьвязаць не патрапе"!..

Слушна: пачуцьцё свайго бясьсільля супраць магутнага адраджэнска-вызвольнага руху сярод беларусаў дыктуе тутэйшым палякам толькі адзін—апошні ўжо спосаб змаганьня з намі: **шляхам тэрору!..**

### ЗАБАСТОЎКА ВУГЛЯКОПАЎ.

(Карэспандэнцыя з Лёндану).

Барацьба вуглякопаў абвастраецца. 10 тысяч вуглякопаў прылучылася зноў да забастоўкі. Буржуазная прэса й урад імкнуцца неправідловымі інфармацыямі абнізіць баявы дух англійскіх рабочых, вызваць дэпрэсію, зламаць іх салідарнасьць. У той час, як з 70 тысяч небастуючых работнікаў 10 тысяч прылучылася да забастоўкі, буржуазная прэса піша аб прылучэньні 20 тысяч работнікаў да штрэйкбрэхераў, а буржуазны ўрад публікуе, што лік штрэйкбрэхераў узьвялічыўся на 14.500 чалавек. Цэнтральная Управа праф. саюзу гарнякоў пераносіць сваю рэзыдэнцыю з Лёндана ў цэнтр краю, каб павесьці больш рашучую барацьбу і прымусіць прадпрыемцаў да ўступу, затым саюз дамагаецца матар'яльнай помачы ад іншых работніцкіх саюзаў.

Зьезд англійскай работніцкай партыі шмат увагі і часу пасьвяціў забастоўцы гарнякоў. Аказалася, што, ня гледзячы на падвоз штрэйкбрэхерскага вугальля з Нямеччыны, Польшчы, Францы, Чэхаславаччыны і Амэрыкі, англійская буржуазія ня ўсілах наладзіць сваей гаспадаркі. Вугальная забастоўка адбіваецца ўва ўсіх галінах гаспадарчага жыцьця Англіі. Найлепш сьведчаць аб гэтым наступныя факты: чыгуначны рух панізіўся настолькі, што з ліку чыгуначнікаў, працаваўшых да забастоўкі, 45 тысяч асталіся зусім бяз працы, а 200 тысяч працуе толькі 3 дні ў тыдзень; 80 тыс. транспартных рабочых — зусім бяз працы, 100 тыс. працуе часткова; 60 проц. партовых рабочых зусім бяз працы, другія 20 проц. працуюць часткова. Гэткія насьледкі для Англіі мае прагавітасьць некалькіх сотак вугальных баронаў.

На зьезьдзе была выстаўлена рэзалюцыя спогаду гарнякам у іх 6-месячным бяспрыкладным па сваей стойкасьці бою. Далей рэзалюцыя асуджае буржуазную ўладу і дамагаецца сацыялізацыі капальняў. Гэта рэзалюцыя была прынята пасьля бурных нападак гарнякоў, якія востра крытыкавалі рэзалюцыю, слушна кажучы, што гарнякі не патрабуюць сымпатыі, а практычнай помачы. Гарнякі дамагаліся, каб быў забаронены прывоз чужога штрэйкбрэхерскага вугальля ў Англію, гэтае дамаганьне было адкінута дзякуючы англійскім паслушным, пакорным служкам—Макдональду, Томасу і іх староньнікам.

Паводлуг афіцыяльных цыфраў, лік безработных у Англіі павялічыўся ў працягу тыдня на 45 тысяч асоб, дасягнуўшы лічбы 1.572.700 асоб, не бяручы пад увагу 1.100.000 бастуючых.

Англійская забастоўка памагае вуглякопам бароцца з валадарамі капальняў і заграніцай. Галяндзкія вугальныя бароны пад пагрозай агульнай забастоўкі йдуць на ўступкі і згаджаюцца на 6-гадзінны рабочы дзень у суботу, прапануючы завясьці гэта ад 1-га студзеня 1927 г.

Лёндан.
17./X. 1926 г.

Л. М.

# З жыцьця „Грамады“.

## Да ведама сяброў „Грамады“ м. Вільні.

Гэтым паведамляюцца сябры Бел. Сял.-Раб. Грамады, якія пражываюць у Вільні, аб маючых адбыцца сходах сяброў Грамады ў такім парадку:

1) 23-га кастрычніка г. г. у гадз. 6 увечары адбудзецца сход сяброў, якія пражываюць у цэнтры горада.

2) 24-га кастрычніка ў 10 гадз. адбудзецца сход сяброў, якія пражываюць у Новасьвецкім райёне.

3) 24-га кастрычніка ў 4 гадз. папаўдні адбудзецца сход тых сяброў, якія пражываюць у Сьніпішскім райёне (за зяленым мостам).

Сходы склікаюцца дзеля разгляду спраў арганізацыйных і выбараў райённых Камітэтаў, і ўсе адбудуцца па Вялікай вул. д. № 30, кв. 9.

Яўка ўсіх сяброў абавязкава.

**Камітэт Віленскае Арганізацыі.**

## Павятовы Зьезд „Грамады“ ў Косаве.

16-га верасьня с. г. ў м. Косаве адбыўся павятовы зьезд Белар. Сялян.-Работ. Грамады, на якім было 527 сяброў арганізацыі. Зьезд адчыніў пасол Валошын; у склад прэзыдыуму ўвайшлі: старшыня — пасол Валошын, віцэ-старшыня—пасол Рак-Міхайлоўскі, сябры прэзыдыуму — Сушко Антось, Падражанец Янка, Кучук Янка, Багдановіч Мікалай, Ступніцкі Янка.

Пасьля авацыі і кіданьня кветак паслом, зьезд прыступіў да працы з гэткім парадкам дня: 1) справаздача паслоў, 2) даклады аб працы Грамады на мясцох, 3) арганізацыйныя справы ў Косаўшчыне, плян далейшае працы, 4) выбары павятовага камітэту і 5) бягучыя справы.

Аб працы пасольскага клюбу „Грамады“ зрабілі падробны даклад абодва прысутныя паслы. Пасьля пачаліся даклады з мейсц.

Янка Падражанец гаварыў аб працы ў Косаўскай гміне. Лічба гурткоў тамака да дня зьезду была 20, лічба сяброў у іх—каля 800. З тэй-жа гміны Янка Кучук гаворыць аб працы гміннае рады, крытыкуе яе і заклікае заняцца справай самаўрадаў.

Русак Пётра, работнік з тартака ў Івацэвічах, сябра праф. саюзу, апавядае аб рэпрэсіях улады проці яго, як арганізатара праф. саюзу.

Апавядаюць аб працы гурткоў у сваіх гмінах: Сушко Антось—у Борка-Гічыцкай гм., Багдановіч Мікалай—у Тэлеханах, Цярэшка Пракоп—у в. Скураты, Косаўскай гм. Усе гавораць, што страх працаваць ужо разьвеяўся, ды клічуць да арганізацыі, ня гледзячы на ўсе рэпрэсіі з боку паліцыі.

Пасьля дыскусіі і дадзеных паслымі інструкцыяў зьезд аднагалосна—пад гучныя воплескі—прыняў гэткую рэзалюцыю:

Косаўскі Павятовы Зьезд Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, сабраны 16 га верасьня 1926 г. у м. Косаве ў ліку 527 сяброў, пастанавіў:

1) Справаздачу пасла Валошына аб працы Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады зацьвярдзіць, лічучы, што гэтая работа правільная і вядзецца на карысьць працоўнага народу, згодна з яго сацыяльнымі і нацыянальнымі інтарэсамі, злучаючы сялян і работнікаў у адзіны магутны саюз.

Прытым зьезд пастанаўляе, што Грамада стойка будзе вясьці барацьбу:

1) За зямлю для сялян бяз выкупу і скасаваньне асадніцтва.

2) За тое, каб падаткі былі пераложаны з плечаў працоўных на плечы маючых клясаў, каб быў уведзены падатак ад гаспадаркі адзін на ўвесь год, з разлажэньнем на раты, а з бяззямельных і малазямельных, каб былі зьняты ўсялякія падаткі.

3) За школу на скарбовы кошт для кожнае нанацыянальнасьці ў яе роднай мове—беларусам беларуская.

4) За зьменшаньне коштаў на ўтрыманьне войска, за скарочаньне часу службы, за тое, каб не выпускалі салдат са службы голымі, а давалі-б казённую вопратку.

5) За тое, каб паменшыць урадоўцаў (чыноўнікаў), каб паменшыць паліцыю, а ўсіх шпікоў, усю дэфэнзыву скасаваць бяз сьледу; за тое, каб спыніць зьдзек і тэрор паліцыі і адміністрацыі ды строга пакараць вінных чыноўнікаў, шпікоў, паліцыянтаў і несправядлівых судзьдзяў.

6) За скасаваньне кары сьмерці, за скасаваньнэ даразных судоў, за вызвалене з турмаў усіх палітычных вязьняў—за амністыю.

7) За тое, каб самаўрады гмінныя і павятовыя не назначаліся старастамі, як дагэтуль, а выбіраліся народам.

8) Каб была дадзена сялянам помач на адбудову.

9) Каб былі зьняты ўсе несправядлівыя штрафы на бедны народ, а перадусім школьныя штрафы.

10) Прызнаючы цяперашні ўрад выразна абшарніцка-буржуазным, як і папярэднія, зьезд перакананы, што толькі запраўдны сялянска-работніцкі ўрад шчыра захоча і зможа папрaвіць долю працоўнага народу ды прыгнечаным нацыянальнасьцям дасьць поўную свабоду самаазначэньня.

Пасьля прыняцьця рэзалюцыі зьезд выбраў **Павятовы Камітэт Грамады**, у які ўвайшлі: Сушко Антось—старшыня, Букшта Даніла—скарбнік, Падражанец Янка—сэкрэтар.

У часе разгляду бягучых спраў прыняты дзьве цікаўныя рэзалюцыі: 1) дамаганьне, каб жаўнеры-беларусы адбывалі вайсковую службу на тэрыторыі Заходняе Беларусі, 2) пастанова распачаць кампанію на карысьць беларускае школы, складаючы школьныя дэкларацыі.

# Новы працэс ката-абшарніка.

Беларускія газэты пісалі ў свой час аб галосных працэсах горадзенскага абшарніка „ордыната“ Бісьпінга, які,—дзеля матэрыяльнае карысьці забіў з рэвальвэру свайго блізкага сваяка — мільянэра-абшарніка Друцкага-Любэцкага. Ня так даўно ў Варшаве разглядалася ў апэляцыйным судзе гэтая справа. У часе працэсу гэты абшарнік-бандыт, дамагаючыся апраўданьня, пахваляўся тым, што ён у часе нямецкай ды бальшавіцкай акупацыі—забіваў беларускіх сялян ды паліў беларускія вёскі... І вось цяпер прыйшоў чарод гэтаму азьвярэламу кату-рэцыдывісту адказываць перад горадзенскім судом — якраз за гэтыя яго „богатэрскія чыны“, якімі ён хацеў тады ў варшаўскіх судзьдзяў выклікаць да сябе сымпатыю ды лагаднейшы прысуд...

Акт абвінавачаньня — пад націскам тысячаў сьведкаў—раскрыў усю праўду аб зьверствах гэтага рэдкага навет сярод нашых „крэсавых“ абшарнікаў ката-забойцы-падпаляча.

Вось, што кажа гэты акт.

Калі расейскае камандаваньне, перад увахода м немцаў у Горадзеншчыну, „ачышчала“ край ад усяго насяленьня, мяйсцовыя сяляне, суседзі маёнтку Бісьпінга, павінны былі выехаць на ўсход, пакінуўшы ўсё збожжа на полі. Тады Бісьпінг, назначаны нямецкай уладай „войтам“ гміны Вялікія Эйсмонты, пазвозіў ўсё сялянскае дабро да свайго маёнтку Масаляны...

Калі, у канцы 18 году, нашы бежанцы вярнуліся на свае сядзібы, яны зьвярнуліся да Бісьпінга, каб вярнуў ім хаця-б частку таго дабра, якім пажывіўся. Аднак-жа Бісьпінг рашуча адмовіў. Тады часьць больш адважных сялян, з галадухі, пайшла ў двор жонкі Бісьпінга (сястры забітага ім князя Друцкага) і, карыстаючы з адсутнасьці гаспадара, забрала там самавольна бульбы, жыта, аўса, навет крыху мэбляў. Даведаўшыся аб гэтым, Бісьпінг, выпрасіўшы ад немцаў з Ліды атрад войска, пачаў сам „рабіць обыскі“ ў хатах западозраных сялян, адбіраючы сваё збожжа і мэблі.

У часе гэтай „карацельнай экспэдыцыі“ нямецкае з польскім абшарнікам начале—Бісьпінг казаў нямецкім жаўнерам біць ды расстрэліваць беларускіх сялян, а аднаго з іх (Майсевіча), які на каленях прасіў даравацьь яму жыцьцё, дык уласнаручна застрэліў з ружжа на сьмерць... Характэрна, што, калі дачка раненага Майсевіча пабегла за фэльчарам, каб ратаваў айца, кат-абшарнік прыказаў вярнуць яе, загадаўшы ёй—сьпярша аднесьці да яго маёнтку нейкі яго столік ды крэсла, а пасьля ўжо—бягчы па фэльчара... Дык помач спазьнілася—бацька памёр...

Пасьля гэтай экзэкуцыі Бісьпінг загадаў нямецкім жаўнерам забраць усё вясковае быдла ды пагнаць на яго двор, арыштаваўшы да таго і некалькі „закладнікаў“ з сялян. Быдла пасьля зьвярнуў вёсцы, але—за выкуп па 1000 рублёў ад штукі...

На другі дзень Бісьпінг, на чале таго-ж атраду, паехаў у другую вёску — Рамуцеўцы, якую пачаў навакол абстрэліваць з кулямётаў. Жыхары вёскі ў страху ўцяклі ў лес. Тады сам Бісьпінг уласнаручна, з сваімі таварышамі, пачаў падпаліваць хату за хатай у вёсцы, гумны, пуні і г. д...

З аднэй хаты гаспадара Пракаповіча Бісьпінг уласнаручна выпхнуў яго хворую жонку з дзяцьмі, каб пасьля спаліць хату. Калі хата пачала гарэць, падыйшоў сам гаспадар, якога азьвярэлы кат так сільна зьбіў прыкладам карабіна, што той праз 3 дні памёр. Пасьля гэтага Бісьпінг асабіста падпаліў яшчэ некалькі хатаў—гасп. Барэйшы, Рышкі... У хаце апошняга ляжаў хворы на тыфус Васіль Рышка, якога кат выгнаў з хаты, каб спаліць яе... Апрача гэтых 4 хатаў, абшарнік падпаляч спаліў яшчэ асабіста 30 вялікіх гаспадарчых будынкаў і 90 меншых... У дадатку Бісьпінг арыштаваў з гэтай жа вёскі 3 сялян, якіх пратрымаў у сваіх склепах да 9 дзён...

Калі абрабаваныя сяляне зьвярнуліся са скаргай да нямецкай улады, дык выкрылася яшчэ цікаўная чырта: ніякіх нямецкіх жаўнераў гэтая ўлада Бісьпінгу не давала, але гэта ён сам, адзеўшы ў нямецкія мундзіры сваіх людзей з маёнтку, злажыў гэткім чынам банду — на сваю ўласную руку... Нямецкія ўлады страшэнна абурыліся на ўсе подласьці, забойствы ды рабункі польскага абшарніка—ад іх імя, ды пастанавілі яго арыштаваць. Але той здалеў уцячы...

Ян Бісьпінг прызнаўся амаль не да ўсіх гэтых сваіх дзел, кажучы толькі, што падпаліваў, ня ведаючы, што ў хатах былі людзі, дый што забіў людзей, „не жадаючы забіць“... У канцы дадаў, што інакш, як ён, ня можна было паступаць з сялянамі, якія ўжо паднялі галовы, бо набліжаліся бальшавікі,—ды пачалі паліць і рабаваць польскія маёнткі.

### Прыгавор.

**Прыгаворам горадзенскага акружнога суда Ян Бісьпінг апраўданы па ўсім пунктам акту абвінавачаньня.**

Як інфармуе „Głos Prawdy“, суд прызнаў, што **Бісьпінг учыніў ўсё гэта з палітычных пабуджэньняў, баронячы сацыяльны лад ад бальшавізму.**

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

**Ваўкавыскі павет.**

503. у в. **Новікі**, Роскае гм.,
504. у в. **Новае-Сяло**, „
505. у в. **Карнаўцы**, „
506. у в. **Краснае Сяло**, „
507. у в. **Баблова**, „
508. у в. **Каменіца**, Ізабэлінскае гм.
509. у в. **Добра Воля**, Сьвіслацкае гм.
510. у в. **В.-Грынкі**, „
511. у в. **Пачарнейкі**, Падароскае гм.
512. у в. **Кузявічы**, „
513. у в. **Губчыцы**, „
514. у в. **Навасёлкі**, Мсьцібаўскае гм.

**Вялейскі павет.**

515. у в. **Халапы**, Вялейскае гм.
516. у в. **Калов чы**, „
517. у в. **Парса**, „
518. у в. **Новыя Зіморды**, Куранецкае гм.
519. у в. **Каралеўцы**, Войстамскае гм.
520. у в. **Каранішчы**, Крывіцкае гм.
521. у в. **Восава**, „

**Горадзенскі павет.**

522. у в. **Шалепкі**, В.-Бераставіцкае гм.
523. у в. **Лісьневічы**, „
524. у в. **Плюскалаўцы**, „
525. у в. **Гольні**, М.-Бераставіцкае гм.
526. у в. **Одлы**, Крынскае гм.
527. у в. **М.-Альшанка**, Горніцкае гм.
528. у в. **Горніца**, „
529. у в. **Бершты**, Берштаўскае гм.
530. у в. **Сухары**, „
531. у м. **Азёры**, Азёрскае гм.
532. у в. **Стрыеўка**, „
533. у в. **Лахно**, „
534. у в. **Хамікі**, Лашанскае гм.
535. у в. **Агароднікі**, „
536. у в. **Кунцоўшчына**, „
537. у в. **Некрашы**, Скідэльскае гм.
538. у в. **Хваты**, „
539. у в. **Ахрымоўцы**, „
540. у в. **Сухаўляны**, „
541. у в. **Лаўне**, „
542. у в. **Кордзікі**, В.- Эсьмантаўскае гм.
543. у в. **Стараўшчына**, Каменскае гм.
544. у в. **Загарані**, Луненскае гм.
545. у в. **Казейкі**, „
546. у в. **Навасёлкі**, „
547. у в. **Скраблякі**, Галынскае гм.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

# ХРОНІКА.

**Ізноў развал у „полёнафілаў“.** Як мы даведаліся, з ледзьве нарадзіўшагася т-ва „Беларуская Хатка“ (арганізацыі „полёнофілаў“ без Паўлюкевіча) выступіў старшыня т-ва грам. Ф. Аляхновіч. А вось варшаўская эндэцкая прэса так трыумфавала з прычыны ўзросту „полёнофільскага“ руху!

**Беларуская мова, як выкладовая, у Віленскай праваслаўнай сэмінарыі?** Эндэцкае „Слово Польске“, асабісты орган Ст. Грабскага, страшэнна абураецца на тое, што ўжо ўведзеная ў Віленскай праваслаўнай сэмінарыі польская мова, як адзіная выкладовая, раптам скасавана загадам мін. Суйковскага, які ўвёў побач з польскай мовай і—беларускую. Эндэцкая газэта „чакае“, што гэтае „адно з многіх глупстваў, якія нарабіў гэты міністар“, будзе зараз-жа папраўлена мін. Бартлем...

Мы жывем у Вільні, навет блізка ад Сэмінарыі, але нешта дагэтуль яшчэ ня чулі, каб у ёй была ўведзена беларуская мова, як выкладовая...

**Красамоўнае запярэчаньне.** Надовячы абшарніцкае „Słowo“ „аўтарытэтна“ заяўляла, што Камуністычная Партыя Заходняе Беларусі зьліквідавалася, і ўсе сябры яе ўвайшлі ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. А вось з № 246 з 21 кастрычніка тэй жа газэты выходзе, што партыя гэная ўсё-ж такі жыве і разьвівае сваю дзеяльнасьць. Так, „Słowo“ падае аб дзеяльнасьці яе дзьве весткі:

Уначы з 16 на 17 кастрычніка на лініі чыгункі паміж станцыямі Новаельня і Баранавічы былі параскіданы каля 80 камуністычных адозваў у беларускай і расейскай мовах—з подпісам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі.

У тую-ж ноч на тракце паміж Ваўкавыскам і Мостамі ў Беластоцкім ваяводзтве няведамыя спраўцы павесілі на дрэве „камуністычны транспарант“ з трэбаваньнем звальненьня палітычных вязьняў і з лёзунгам: Хай жыве работніцка-сялянскі ўрад!

Дык як-жа, паны абшарніцкія пісакі: істнуе гэная партыя, ці ня істнуе?!.

**У Беларускім выдавецкім Т-ве.** У суботу 23 кастрычніка, у 5 гадз. папал. мае адбыцца агульны сход сяброў Беларускага Выдавецкага Т-ва—у памяшчэньні Белар. Каап. Банку. Парадак дня: 1) справаздача ўраду і рэвізыйнае камісіі, 2) перавыбары ўраду і рэвіз. камісіі, 3) бягучыя справы.

Калі-б у назначаную гадзіну не сабралася вымаганая статутам лічба сяброў Т-ва, паўторны агульны сход, правамочны пры ўсякай лічбе сабраўшыхся, адбудзецца там-жа і з тым-жа парадкам дня ў той жа дзень у 6 гадз. увечары.

